Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 15 220.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Аўторак, 17 сакавіка 1998 г. № 26 Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## У Магілёве не чакалі насценнай крамолы

**Дзесяткі «крамольных» надпісаў з'явіліся на мінулым тыдні ў Магілёве на сценах адміністрацыйных будынкаў.**

Невядомыя апазіцыянеры не абышлі сваёй увагай нікога. На доме абласнога тэлебачання бялела: «Свабоду тэлебачанню!», «Свабодзе слова — свабоду!»; на будынку суда — «Шыдлоўскаму і Кабанчуку — свабоду!», «Свабоду палітвязням!»; на сцяне дома, дзе размяшчаецца мясцовая арганізацыя БПСМ, — «Смерць лукашызму!», «БПСМ — лукашысцкія халуі!», «Моладзь супраць БПСМ!». На ўсіх сямі помніках пралетарскаму правадыру красаваўся надпіс «Ленін — КАТ». Адначасова ўсюды можна было пабачыць улёткі, у якіх змяшчаліся вельмі жорсткія выказванні пра цяперашні рэжым і ягоных галоўных дзеючых асобаў.

Міліцыя і ўлады «праспалі» гэтую акцыю. Эфект ад нечаканай акцыі быў такі, што гарвыканкам быў вымушаны стварыць спецыяльную камісію, каб яна высветліла, хто ў гэтым вінаваты. А самі міліцыянты некалькі дзён затрымлівалі ўсіх маладых людзей, якія спрабавалі наклеіць на сцяну хоць што-небудзь. Напрыклад, быў затрыманы і прасядзеў гадзіну ў апорным пункце хлопец, які клеіў абвестку аб продажы кватэры. Затрымалі таксама групу сяброў Маладога Фронту, якія спрабавалі клеіць улёткі аб санкцыянаваным пікеце ў абарону беларускай мовы.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**



*У Мінску Дзень Канстытуцыі-94 апазіцыя адзначала дэманстрацыяй і мітынгам.*

## З трох тысячаў аднаго будуць судзіць

**У чацвёртую гадавіну беларускай Канстытуцыі прадстаўнікі трох апазіцыйных партыяў арганізавалі ў Мінску шэсце і мітынг, у якіх удзельнічала прыкладна 3 тысячы чалавек.**

Апазіцыйная калона, якую ўзначальвалі лідэр Народнай Грамады Мікола Статкевіч, дэпутаты Генадзь Карпенка, Анатоль Лябедзька, Станіслаў Багданкевіч, Аляксандр Дабравольскі, Павел Знавец і іншыя палітыкі, прайшла ад плошчы Я.Коласа па вуліцы Чырвонай да Опернага тэатра.

Цікава, што на гэты раз сярод дэманстрантаў не было заўважана спікера ВС Сямёна Шарэцкага, а таксама лідэраў БНФ і ПКБ. С.Шарэцкі адсутнічаў па прычыне досыць празаічнай (захварэў на грып). Фронтаўскае кіраўніцтва атрымала дырэктыву ад свайго лідэра Зянона Пазьняка берагчы сілы да Дня незалежнасці БНР, а апазіцыйныя камуністы вырашылі больш не ўдзельнічаць у мерапрыемствах пад сцягамі дэмакратаў. Класавая свядомасць, так бы мовіць, не дазваляе. Тым не менш народ сабраўся паслухаць лідэраў апазіцыі, якія ў чарговы раз выказаліся пра наступ дыктатуры, і наракалі на тое, што ўлады не далі арганізатарам мітынгу гукаўзмацняльнай апаратуры.

Акцыя скончылася даволі мірна, але, відаць, беларуская міліцыя настолькі прызвычаілася да розных арыштаў і хапуноў, што не затрымаць аднаго з арганізатараў мерапрыемства Міколу Статкевіча яна проста не магла. Пасля мітынгу ахоўнікі парадку прапанавалі лідэру сацыял-дэмакратаў праехаць з імі ў пастарунак на «размову». І хаця дэманстранты не парушалі грамадскага парадку і не адхіляліся ад вызначанага ўладамі маршруту шэсця, усё ж такі Статкевіча абвінавацілі ў тым, што ўдзельнікі акцыі выкрыквалі антыпрэзідэнцкія лозунгі, і склалі на яго адпаведны пратакол. Судзіць яго будуць 19 сакавіка.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Ці прыслухаецца беларускі рэжым да рэкамендацыяў АБСЕ?



*Хансплетар Кляйнар прыехаў у Беларусь са Швейцарыі. Яму 62 гады. Нарадзіўся ў Цюрыху. Адукацыя ў сп.Кляйнара такая ж, як у аднаго з вядомых палітычных дзеячаў Беларусі: ён гісторык са спецыялізацыяй «археалогія». Шмат гадоў Кляйнар працаваў журналістам у швейцарскім інфармацыйным агенцтве Svin News Agency, дзе прайшоў шлях ад карэспандэнта да дырэктара. У АБСЕ — з 1994 года. Працаваў у місіях АБСЕ у «гарачых кропках» — у Сараеве і ў Грозным.*

### *Інтэрв'ю з намеснікам кіраўніка назіральнай групы АБСЕ*

Шмат слоў прысвяціў Аляксандр Лукашэнка падчас свайго апошняга выступлення ў Гродне групе АБСЕ. Праўда, гэтыя словы цяжка назваць цёплымі. У прыватнасці, наш дыктатар нагадаў, што Беларусь — адна з краінаў-удзельніцаў Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе. «І сёння нейкія нанятыя намі чыноўнікі прыедуць нас кантраляваць!» — абурыўся Лукашэнка. Логіка, трэба прызнаць, дужа арыгінальная. Такім чынам, выходзіць, што любы грамадзянін краіны можа сказаць: "Я плачу падаткі, каб утрымліваць праваахоўныя органы — таму яны не маюць права перашкаджаць мне парушаць законы і караць мяне, калі я здзейсню злачынства».

Зрэшты, група АБСЕ паліцэйскіх функцыяў выконваць не збіраецца. Наадварот, яна выказвае гатоўнасць да карпатлівай працы і грунтоўнага азнаямлення з усімі пунктамі погляду.

Чым займаецца група АБСЕ ў Беларусі? Што ўваходзіць у яе планы? Пра гэта і многае іншае нам распавёў намеснік кіраўніка кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ Хансплетар КЛЯЙНАР

**— Спадар Кляйнар, якое ўражанне ў вас склалася аб агульным становішчы з правамі чалавека ў Беларусі? Якія менавіта аспекты ў гэтай сферы падаюцца вам найбольш актуальнымі ў нашай краіне і, скажам так, выклікаюць найбольшую занепакоенасць?**

— Я павінен адзначыць, што людзі маюць магчымасць адкрыта да нас прыйсці, паскардзіцца, расказаць пра свае праблемы. Мне ўжо давялося пазнаёміцца з краінамі, дзе людзі гэткай магчымасці пазбаўлены.

Яшчэ мінулы старшыня АБСЕ, дацкі міністр Петэрсан вызначыў, што найгоршая сітуацыя ў Беларусі са свабодаю сходаў (у тым ліку мітынгаў і дэманстрацыяў) і з падзелам уладаў. Канешне, праблемы далёка не толькі ў гэтым — але гэтыя два пункты вылучаныя перш за ўсё.

**— Ці паспела група АБСЕ ўжо ажыццявіць нейкія дзеянні ў Беларусі?**

— Трэба адзначыць, што група знаходзіцца тут не дзеля таго, каб развіваць актыўную дзейнасць. Мы ажыццяўляем не разавыя акцыі, а планамерную работу. Група АБСЕ пастаянна знаходзіцца тут па запрашэнні беларускага ўрада для таго, каб назіраць за становішчам у краіне і даваць парады ў галіне заканадаўства (перш за ўсё, маюцца на ўвазе законы, у пэўнай меры звязаныя з правамі чалавека). На дадзены момант мы працуем над законам аб выбарах, законам аб становішчы міжнародных і грамадскіх арганізацыяў, заканадаўствам аб прапісцы і г.д.

**— Вашыя рэкамендацыі будуць тычыцца канкрэтных палажэнняў законаў або агульных прынцыпаў, якія павінны змяшчацца ў заканадаўстве?**

— Тут нашая дзейнасць не рэгламентаваная, рэкамендацыі могуць быць на розных узроўнях. Галоўнае, каб гэта вяло да нашай асноўнай мэты — уключыць Беларусь у еўрапейскую супольнасць.

**— А каму вашая група будзе накіроўваць свае прапановы? АБСЕ, як вядома, прызнае Канстытуцыю 1994 г. і, адпаведна, не прызнае «нацсхода». Які заканадаўчы орган можа прыняць змяненні, якія вы прапануеце?**

— У любым выпадку прапановы будуць накіроўвацца ў беларускія кампетэнтныя органы, якія павінны гэтым займацца. Задачаю АБСЕ з'яўляецца прадухіліць кожны крызіс, калі гэта магчыма. Калі сітуацыя ўсё ж дайшла да крызісу, АБСЕ спрабуе дамагчыся адкрытай размовы паміж рознымі бакамі, звесці бакі да агульных падыходаў, дасягнуць кансенсусу. Гэтыя працэсы ў Беларусі цяпер замарожаныя, і нам спатрэбіцца працяглы час, каб іх растапіць. Мы не суд, мы не можам вынесці нейкае абавязковае рашэнне. Рашэнне павінна зыходзіць з самой гэтай краіны — мы можам толькі працаваць над тым, каб узнікла глеба, на якой вырасце такое рашэнне.

**— Аднак АБСЕ не лічыць правы і свабоды чалавека ўнутранай справаю дзяржавы.**

— Так, гэтая справа — міжнародная, і яна тычыцца абсалютна кожнай дзяржавы. АБСЕ не раз заяўляла, што яна заклапочаная тым, як правы чалавека развіваюцца ў Беларусі. Цяперашняе становішча з правамі чалавека і прывяло вашую краіну да моцнай палітычнай ізаляцыі. Калі незалежныя заканадаўчая і судовая ўлады проста скасаваныя, дык АБСЕ адназначна гаворыць, што палітычныя правы абсалютна парушаныя, — і гэта мае наступствы. Такая краіна наўрад ці можа быць партнёрам міжнародных арганізацыяў; дзяржавы і тым больш прыватныя прадпрымальнікі не будуць інвеставаць сродкі ў такую краіну.

АБСЕ не прызнае «нацыянальны сход» за дэмакратычны і законны парламент, не прызнае таго, што ён прадстаўляе беларускі народ. Але прэзідэнт Лукашэнка з'яўляецца легітымным лідэрам дзяржавы. Да наступнага года. Пасля гэтага, калі прэзідэнцкія выбары не адбудуцца, мы не зможам прызнаваць яго законным прэзідэнтам. Безумоўна, Еўропа адрэагуе на такую сітуацыю зусім адназначна. Прычым выбаршчыкі павінны мець магчымасць свабодна, без усялякіх пагрозаў, выказаць сваю волю. Абсалютна абавязковымі з'яўляюцца доступ кандыдатаў да СМІ, свабода сходаў, беспераашкодны кантроль за ходам выбараў. Толькі пры гэткіх умовах выбары могуць быць прызнаныя АБСЕ дэмакратычнымі. Гэта тычыцца і прэзідэнцкіх, і парламенцкіх выбараў.

(Працяг на стар. 3)

## Долар спынілі

### *Шукаюць валюту і вінаватых*

На мінулым тыдні рэзка ўзрос курс долара. Калі на пачатку тыдня за долар магчыма было атрымаць 47.000 рублёў ці, у самым лепшым выпадку, 49.000 рублёў, то ўжо ў чацвер, 12 сакавіка, на «чорным рынку» долар можна было здаць за 56.000 рублёў і вышэй. Сярод банкаў па найвышэйшым курсе купляў валюту Мінск-Комплексбанк — 54.000 рублёў за долар.

У другой палове дня ў пятніцу курс злёгку адкаціўся назад. І ўжо ў панядзелак максімальны курс скупкі прапанаваў Тэхнабанк — 50.100 рублёў за долар. Знізіўся курс і на «чорным рынку». У нядзелю на мінскім «Дынама» долар каштаваў недзе 50.000—51.000 рублёў. Прычыны падзення курсу, на думку банкіраў, тэхнічныя — пасля рэзкага скачка кацірoўкі заўжды адкатваюцца назад. Да таго ж, адыгралі сваю ролю спадзяванні на тое, што Беларусі ўдасца атрымаць у Расіі грошы на падтрымку беларускага рубля.

(Працяг на стар. 2)

# Долар спынілі

## Шукаюць валюту і вінаватых

(Пачатак на стар. 1)

Каментуючы прычыны крызісу на рынку беларускага рубля, банкіры не выключаюць магчымасці новых скачкоў курсу долара, калі ўрад не прыме хуткіх папераджальных захадаў.

Вядома, што асноўнымі гандлярамі беларускім рублём з'яўляюцца не толькі беларускія, але таксама расійскія і прыбалтыйскія банкі. І калі ў Беларусі курсы долара былі адміністрацыйна абмежаваныя, асноўны свабодны гандаль беларускімі рублямі перамясціўся ў Маскву, дзе цяпер і вызначаецца рэальны курс беларускага рубля. На гэтым рынку гандлююць таксама беларускі Нацыянальны банк і нашыя камерцыйныя банкі. Большасць экспертаў лічаць, што вызначальным момантам для пачатку крызісу стаў сыход Нацыянальнага банка Беларусі з рынку беларускага рубля. Рэч у тым, што на працягу некалькіх месяцаў галоўны беларускі банк займаўся на гэтым рынку скупкай беларускіх рублёў за долары, падтрымліваючы такім чынам курс нацыянальнай валюты. Але напрыканцы лютага ён быў вымушаны сысці з рынку. Прычыны сыходу даволі простыя: калі ў пачатку гэтага года Нацбанк меў больш за 80 млн. долараў валютных рэзерваў, то да канца лютага не засталося нічога, больш таго, банк аказаўся вінны валюту сваім крэдыторам.

Калі ж з рынку сышоў вялікі пакупнік беларускай валюты, ніхто не стаў яе падтрымліваць, як гэтага патрабавала становішча. Дзякуючы «друкарскаму станку» прапанова беларускіх рублёў павялічылася ледзь ці не ў два разы. Да таго ж, фінансавыя праблемы ў самой Расіі вымушаюць расійскія банкі пазбаўляцца ад слабых беларускіх грошай, нягледзячы нават на пагадненні з беларускім Нацбанкам аб падтрымцы беларускай валюты.

На думку банкіраў, існуюць два спосабы стрымаць падзенне беларускага рубля. Першы: спыніць друкарскі станок. Але гэтага чакаць не даводзіцца. Урад выбраў другі варыянт. У пятніцу, 13 сакавіка, у Маскву да Сяргея Дубініна, кіраўніка Цэнтральнага банка Расіі, адправілася дэлегацыя на чале з Генадзем Алейнікавым, кіраўніком беларускага Нацбанка, і прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам. Мэта візіту зразумелая: папрасіць грошай на падтрымку беларускага рубля, а таксама дамовіцца аб прывязцы беларускага рубля да расійскага. Але пакуль невядома, ці ўдалося беларускім візіцёрам штосьці выпрасіць у старэйшага брата. У Расіі цяпер шмат сваіх фінансавых праблемаў, асабліва пасля зніжэння на мінулым тыдні яе міжнароднага крэдытнага рэйтынгу. Няма надзеяў і на тое, што грошы могуць даць расійскія камерцыйныя банкі.

У выніку, калі грошы не знойдуцца і ўрад не зменіць сваю фінансавую палітыку, Беларусь будзе мець шмат праблемаў. Нашаму рублю пагражаюць новыя хуткія падзенні, і, у выніку, зноў можа пачацца гіперінфляцыя, рост коштаў на тавары, імклівае зніжэнне рэальных даходаў насельніцтва.

Тым часам Нацыянальнаму банку пагражае кадравая «чыстка». Пошукам вінаватых ужо заняліся Савет бяспекі, КДБ, Камітэт дзяржкантролю. Але тут ёсць некаторыя праблемы з выбарам ахвяраў. Галоўны кандыдат, старшыня праўлення Нацбанка Генадзь Алейнікаў, падчас крызісу ваяжыраваў з Лукашэнкам па Іране і Сірыі, таму на ролю вінаватага больш падыходзіць які-небудзь з ягоных замаў. Але, магчыма, звальненне чакае і самога галоўнага банкіра, асабліва, калі ён вернецца з Расіі з пустымі рукамі. Далейшы лёс шэфа Нацбанка стане вядомы па выніках сённяшняй сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам. Пакуль жа Генадзь Алейнікаў ходзіць у суправаджэнні 12 целаахоўнікаў (у Віннікавай, дарэчы, быў толькі адзін).

**Алесь САДОЎСКІ**

# Чубайс думае пра Беларусь

**Падзеі на беларускім фінансавым рынку, а потым маланкавы візіт у Маскву беларускага прэм'ера Сяргея Лінга прыцягнулі надзвычайную ўвагу расійскіх СМІ.**

Яны параўналі тое, што адбывалася на мінулым тыдні ў Беларусі, з «чорным аўторкам» 1996 года на расійскім фінансавым рынку. Шмат газет выказвалі думку, што Сяргей Лінг сустракаўся са старшынёй расійскага Цэнтрабанка Сяргеем Дубініным у мінулую пятніцу з мэтай выпрасіць у Цэнтрабанка Расіі грошы на ўратаванне беларускага рубля.

Беларускія афіцыйныя крыніцы дагэтуль не раскрываюць сутнасці перамоваў Лінга і Дубініна. Між тым, вычарпальны каментар да гэтых падзеяў ужо даў першы расійскі віцэ-прэм'ер Анатоль Чубайс. Выступаючы 15 сакавіка па каналу РТР, ён заявіў, што аб крэдытах Цэнтрабанка не можа быць і гаворкі, бо *«гэта забаронена расійскім заканадаўствам»*. Па словах Чубайса, у будучым можна будзе весці размовы аб крэдыце ў рамках дапамогі краінам СНД, аднак Расія можа пазычыць грошы толькі на ўмовах абавязковага іх вяртання. У якасці іншых, не менш важных умоваў фінансавай дапамогі ён назваў адказную фінансавую палітыку і эканамічныя рэформы. Чубайс усклаў усю адказнасць за беларускі «чорны аўторак» на нашыя ўлады. *«Прычына крызісу — у сутнасці эканамічнага курсу»*, — заявіў першы віцэ-прэм'ер Расіі. *«Немагчыма адрадзіць эканоміку, грунтуючыся на слабой нацыянальнай валюце. Немагчыма павысіць дабрабыт людзей адным загадам друкаваць новыя грошы»*, — упэўнены Чубайс. Ён узгадаў, што неаднаразова даводзіў Сяргею Лінгу, у тым ліку і падчас іх апошняй сустрэчы на мінулым тыдні, пра неабходнасць *«рынкавых рэформаў з лібералізацыяй цэнаў, рэальную прыватызацыю, стварэнне адзінага валютнага курсу і ўмацаванне нацыянальнай валюты»*. Па словах Анатоля Чубайса, у яго нарэшце з'явілася ўражанне, *«што нейкае разуменне неабходнасці гэтых крокаў з'явілася»*.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

*Гомель*

# Маленькія хітрыкі дэмакратаў і «вертыкалі»

**15 сакавіка ў Гомелі група смелых гараджанаў наладзіла арыгінальны перасоўны пікет у гонар Дня Канстытуцыі-94.**

Пікетоўцы праехалі на грамадскім транспарце праз увесь горад, выходзячы на кожным прыпынку. Тут яны разгортвалі нацыянальныя сцягі і плакаты з надпісамі: «Свабоду слова на Беларусь!», «Хто маўчыць — таго душаць!», «Растапталі Канстытуцыю — знішчылі будучыню». Пастаяўшы 10-12 хвілінаў, пікетоўцы сядалі ў наступны тралейбус і ехалі далей.

Адзін з удзельнікаў пікета сказаў карэспандэнту НАВІНАЎ, што дзейнічаць такім чынам іх прымушаюць гарадскія ўлады, якія традыцыйна не дазваляюць гамяльчанам праводзіць пікеты і мітынгі там, дзе яны хочуць, а адсылаюць далей ад вачэй людскіх — у скверыкі, на стадыёны і г.д.

У гэты ж дзень на стадыёне «Гомсельмаш» павінен быў адбыцца дазволены ўладамі мітынг з нагоды святкавання Дня Канстытуцыі-94. Аднак калі больш за 100 гараджанаў сабраліся пад бел-чырвона-белымі сцягамі каля ўваходу на стадыён, начальнік Цэнтральнага РАУС Смолікаў заявіў, што размешчаны ў цэнтры горада стадыён аб'яднання «Гомсельмаш» не з'яўляецца больш стадыёнам «Гомсельмаша», а перададзены ў гарадскую ўласнасць. А стадыёнам «Гомсельмаша», як сказаў начальнік РАУС, лічыцца стадыён, які размешчаны ў раёне Сельмаша, за пяць кіламетраў ад месца падзей. Гэткая навіна вельмі здзівіла арганізатараў мітынгу і ўсіх прысутных, якія, паказваючы на велізарны герб аб'яднання «Гомсельмаш» на браме стадыёна, заклікалі прадстаўнікоў улады да розуму.

Каля гадзіны вяліся перамовы паміж старшынямі гарадскіх арганізацыяў БНФ і АГП, з аднаго боку, і намеснікам мэра Гомеля і камандзірам гомельскага АМОНу — з другога. У выніку арганізатары мерапрыемства адмовіліся ад прапановы правесці мітынг у іншым месцы, папярэдзілі гарадскія ўлады пра недапушчальнасць падобных правакацыяў і заклікалі гараджанаў разысціся.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Справа Шарамета зноў у судзе

**Нарэшце прызначаны дзень разгляду касацыйнай скаргі журналістаў ОРТ Паўла Шарамета і Дзмітрыя Завадскага.**

Паседжанне адбудзецца праз тыдзень 24 сакавіка ў Гродзенскім абласным судзе. Нагадаем, што Ашмянскі раённы суд даў Шарамету два гады, а Завадскаму — 1,5 года зняволення ўмоўна. Журналісты былі прызнаныя вінаватымі ў незаконным перасячэнні мяжы, а Шарамет яшчэ і ў нанясенні шкоды аўтарытэту краіны.

Адвакат Гары Паганяйла заяўляе, што абарона будзе пры разглядзе касацыйнай скаргі настойваць на адмене судовага прысуду з прычыны адсутнасці складу злачынства. *«Разбіральніцтва ў Ашмянах прадэманстравала ўсяму свету, што няма ніводнага доказу віны нашых падабаронных»*, — кажа Паганяйла. Ён упэўнены, што касацыйны суд любой дэмакратычнай краіны ў аналагічным становішчы прызнаў бы Шарамета і Завадскага невінаватымі. Аднак адвакат не ўпэўнены, што гэта па сілах калегіі Гродзенскага абласнога суда.

Пакуль невядома, хто персанальна будзе разбіраць скаргу. У разглядзе скаргі возьмуць удзел таксама пракурор, самі абвінавачаныя і сведкі. Не выключаецца і прысутнасць журналістаў.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Антановіч аб'яўляе новую інфармацыйную вайну

**У мінулую пятніцу на нечарговым брыфінгу для журналістаў міністр замежных справаў Іван Антановіч ратаваў рэпутацыю не толькі знешнепалітычнага курсу краіны, але і свайго шэфа – прэзідэнта Лукашэнкі.**



**Іван Антановіч: «у прэзідэнта няма ні долара, ні цэнта».**

## Пра візіты ў Іран і Сірыю

Як вядома, Іран разглядаецца сусветнай супольнасцю як пагроза міру на Сярэднім Усходзе. Нездарма, вярнуўшыся з гэтага турнэ, міністр Антановіч, па ягоных словах, *«паўдня даставаў з Інтэрнэта ўсё, што пра нас пісалі»*. Закулісныя перамовы прэзідэнта Беларусі з кіраўнікамі Ірана і Сірыі выклікаюць шмат пытанняў, асабліва праекты ваенна-тэхнічнага супрацоўніцтва. Каб высветліць характар пагадненняў, заключаных з гэтымі краінамі, шэраг замежных пасольстваў у Мінску запрасілі аўдыенцыі ў міністра Антановіча. На прэс-канферэнцыі Іван Іванавіч кляўся, што Беларусь *«прытрымліваецца міжнародных дамоўленасцяў»*. Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства заявіў, што *«ніякіх тайных пагадненняў пра абмен або супрацоўніцтва ў галіне ядзерных тэхналогіяў не было»*. Аднак не выключаецца супрацоўніцтва на абмене вопытам і рэсурсамі ў галіне звычайных узбраенняў. Беларусь можа рамантаваць баявыя самалёты, прадаваць стралковую зброю і боепрыпасы. Неабходнасць развіваць супрацоўніцтва з краінамі Усходу міністр тлумачыць тым, што *«заходнія рынкі зачыненыя для доступу нашых тавараў»*.

## Зноў расійская хваля

Міністра Антановіча *«здзівіла хваля інсінуацый, знявагі і домыслаў, якая паднялася ў расійскім друку ў адрас прэзідэнта Лукашэнкі і ягонай палітыкі. Хваля атакі пасля паездкі па расійскіх рэгіёнах носіць злосны, несумленны характар»*. У кіраўніка знешнепалітычнага ведамства *«складваецца ўражанне, што гэтая хваля накацілася пад покрывам расійскіх уладаў, хоць расійскі калега Яўген Прымакоў запэўніў у тэлефоннай размове, што ў ягоным урадзе няма зацікаўленых у такім разнузданым паклёпе на саюзную краіну»*. Але Антановіча не пераканалі гэтыя запэўніванні, бо *«ёсць сілы ў Маскве, якія зноў спрабуюць перашкодзіць двухбаковаму саюзу»*.

У сваю чаргу расійскія рэгіёны, па словах Антановіча, наперабой клічуць Лукашэнку да сябе, і Рыгоравіч зноў збіраецца праехаць па Расіі. А вось у прэзідэнта Ельцына «графік больш шчыльны» і ў Мінск ён, відаць, не прыедзе. Беларускім уладам вельмі хацелася прыняць «чацвёрку» (Беларусь, Расія, Казахстан, Кіргізія) і «двойку», аднак прэзідэнту Казахстана Нурсултану Назарбаеву, кіраўніку «чацвёркі», па словах Антановіча, *«цяжэй ляцець у Мінск па нейкіх прычынах і ён прапануе сабрацца ў Маскве»*. Гэтая прапанова цяпер вывучаецца, але для Лукашэнкі *«надзвычайна важна сустрэцца з Ельцыным»*, і калі гара не ідзе да Магамета, то Магамет паляціць да гары.

## Расійскія банкі ў змове з Чыгіром?

Яшчэ адна вялікая непрыемнасць: пайшоў на дно беларускі рубель. Па словах міністра Антановіча, менавіта расійскія банкі *«штурхаюць беларускі рубель да абвальнага курсу»*. Антановіч прыпугнуў саюзніцу адпаведнымі акцыямі ў адказ. Міністр заявіў, што Беларусь можа «запраста» выставіць Расіі рахунак па запазычанасці, якая, па словах прэзідэнта, складае больш за мільярд долараў.

На думку Антановіча, *«нехта ў афіцыйных расійскіх колах паранейшаму зацікаўлены ў дэстабілізацыі нашых адносінаў»*. У пацвярджэнне гэтым сваім высновам Іван Антановіч прыгадаў Міхаіла Чыгіра, якога *«запрасіў на працу Нацбанк Расіі»*. І тут Іван Іванавіч нечакана трапіў у пастку, бо М.Чыгір да гэтага банка не мае ніякіх адносінаў. Здзіўляе тое, што міністр робіць свае высновы на інфармацыі, якая не адпавядае рэальнасці. Журналісты тут жа абвергілі міністра, але яму ўжо давялося прайсціся па Чыгіру, які працуе ў адным з камерцыйных банкаў у Маскве. Іван Антановіч абвінавачваў былога прэм'ера ў «некампетэнтнасці», якая прывяла да правалаў у першыя два гады лукашэнкаўскага праўлення. Таму факт пераходу Чыгіра ў галоўны банк Расіі *«быў бы забаўнай з'явай, як і яго супрацоўніцтва з камерцыйным банкам»*.

## У прэзідэнта – ні долара, ні цэнта!

Увесь свой пафас міністр Антановіч накіраваў на адрас апальнага бізнесмена Аляксандра Пупейкі, які папрасіў палітычнага прытулку ў Польшчы. Па словах Антановіча, прэзідэнт Лукашэнка «катэгарычна» адмаўляецца ад рахункаў у банках Кёльна і Дзюсельдорфа. Антановіч заявіў, што ў Лукашэнкі *«няма ні долара, ні цэнта і нават кватэры ў Мінску. Ён жыве ў дзяржаўнай рэзідэнцыі, адрас якой усім вядомы»*. Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства звярнуў увагу на тое, што Пупейка не называе канкрэтныя нумары лукашэнкаўскіх рахункаў, і заклікаў замежныя агенцтвы аднесціся да гэтай інфармацыі «скептычна». А таму, хто назаве лукашэнкаўскія рахункі, *«прэзідэнт гатовы выдаць даверанасць на атрыманне ўкладу»*, сказаў Антановіч. Міністр выказаў сваё пажаданне, каб Лукашэнка ўсё ж займеў «нармальную» кватэру ў Мінску, каб двое сыноў не перабіваліся па інтэрнатах. Ён назваў Лукашэнку «бяссрэбранікам». Менавіта так, маўляў, і патрэбна пісаць пра прэзідэнта, а *«за паклёп будзем пазбаўляць замежныя агенцтвы акрэдытацыі»*. Антановіч паабяцаў выкарыстаць тут *«увесь свой уплыў»*. Міністр Антановіч пакуль не назваў паклёпнікамі цяперашніх карэспандэнтаў расійскіх тэлеканалаў у Мінску, але звярнуў увагу на хвалю *«лукашенконенавистничества»* і *«чудовищные»* аб'ёмы дэзінфармацыі ў расійскіх СМІ.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Ці прыслухаецца беларускі рэжым да рэкамендацыяў АБСЕ?

(Пачатак на стар. 1)

**— Калі гаварыць пра парламенцкія выбары: ці не бачыце вы праблемы нават не ў доступе да СМІ і магчымых фальсіфікацыях, а ў саміх паўнамоцтвах гэтага парламента, якія па канстытуцыі 96-га года з'яўляюцца абсалютна мінімальнымі, проста дэкаратыўнымі?**

— Так, гэта адзін з момантаў, які выклікае асаблівую заклапочанасць АБСЕ, — усё той жа падзел уладаў. Многія краіны (напрыклад, Францыя) ведаюць, што такое прэзідэнцкія дэкрэты. Але, па-першае, французскі парламент мае вялікія паўнамоцтвы і ў межах сваёй кампетэнцыі не залежыць ад прэзідэнта. А па-другое, прэзідэнцкі дэкрэт можа быць вынесены на разгляд незалежнага суда, — і калі суд скажа, што дэкрэт супярэчыць Канстытуцыі ці закону, тады гэты дэкрэт знікае.

**— Аднак у нашай краіне, калі канстытуцыя 96-га яшчэ не была ўведзеная, Канстытуцыйны суд, які тады быў незалежны ад прэзідэнта, адмяніў два дзесяткі яго ўказаў. Заключэнні суда дэманстратыўна ігнараваліся. Больш за тое — Лукашэнка выдаў спецыяльнае распараджэнне, якім загадаў ўладным структурам выконваць свае антыканстытуцыйныя ўказы, а не рашэнні Канстытуцыйнага суда. Гэта ўсё рабілася нават пры Канстытуцыі 94-га года. Ці лічыце вы рэальным забяспечыць падзел уладаў у цяперашніх умовах?**

— Я лічу, што і ў цяперашніх умовах трэба выпрацоўваць аптымальнае рашэнне. Трэба знайсці шлях, на якім усе сілы атрымалі б магчымасць прапаноўваць свае выйсці з гэтай сітуацыі. Нават у Босніі, дзе вяліся ваенныя дзеянні, была магчымасць, няхай вельмі марудна, але рухацца да поспеху. Калі разам збіраюцца людзі з вельмі рознымі пазіцыямі — пры жаданні выпрацаваць прымальнае рашэнне яны знаходзяць агульную мову.

**— Калі вы ўжо ўзгадалі пра Боснію... Выказвалася меркаванне, што ў нас тут не Боснія і не Чачня, вайна не ідзе, — таму, маўляў, і няма чаго за намі назіраць.**

— Задачаю АБСЕ з'яўляецца прадухіленне канфліктаў і крызісаў рознага кшталту, вырашэнне самых розных праблемаў з правамі чалавека. Напрыклад, у Латвіі праблемы іншыя, чым у Албаніі, але і там, і там ёсць неабходнасць у наяўнасці прадстаўніцтва АБСЕ.

**— Але меркаванне, якое я прывёў, выказаў сам Аляксандр Лукашэнка на апошняй прэс-канферэнцыі.**

— Заявы афіцыйных асобаў і грамадскіх дзеячаў мы не каментуем. Аднак на мемарандуме аб узаемаразуменні ёсць подпіс сп.Лукашэнкі — таму мы і знаходзімся тут.

Мы ўжо мелі кантакты з уладамі і са шматлікімі членамі грамадскіх арганізацыяў. На бліжэйшую перспектыву, пачынаючы з бягучага тыдня, запланаваны яшчэ вялікі шэраг сустрэчаў. Мы адкрытыя для кантактаў абсалютна з усімі. Акрамя таго, вельмі важнай часткай нашай работы з'яўляецца прыцягненне экспертаў і спецыялістаў па розных галінах з усёй прасторы АБСЕ, у тым ліку з Расіі. Напрыклад, Канстытуцыйны суд Расіі прыняў рашэнне аб незаконнасці прапіскі. Запрасіць сюды спецыяліста з гэтага суда значна больш мэтазгодна, чым якоганебудзь прафесара па міжнародным праве з Захаду.

**— Зразумела — для Захаду праблема прапіскі неактуальная, і там, відаць, няма спецыялістаў у гэтай сферы?**

— Спецыялісты няхай сабе і ёсць, — але ж тут важны не столькі акадэмічны прававы падыход да гэтага пытання, колькі штодзённая практыка.

Таксама мы збіраемся наладзіць шэраг семінараў для прадстаўнікоў як улады, так і грамадскіх арганізацыяў. Гэтыя семінары будуць праводзіць спецыялісты з розных краінаў — самі члены групы АБСЕ не будуць выступаць у якасці настаўнікаў. Я лічу навучальныя семінары вельмі важнымі, асабліва для высокапастаўленых службовых асобаў.

**— Ці звяртаюцца да вас асобныя грамадзяне?**

— Пастаянна звяртаюцца. Мы накіроўваем іх у адпаведныя беларускія ўстановы, якія могуць дапамагчы ў вырашэнні той ці іншай праблемы. У нашай групы няма права ўказваць, як трэба вырашыць асобнае пытанне, — але магчымасць рабіць уплыў па канкрэтных выпадках мы маем. І з цягам часу ўсе гэтыя размовы з людзьмі ствараюць агульную карціну праблемаў, актуальных для Беларусі. У выніку мы вылучым заканамернасці і зможам прапанаваць афіцыйным уладам варыянт вырашэння гэтых праблемаў. Місіі АБСЕ ў іншых постсавецкіх дзяржавах — Украіне, Малдавіі, краінах Балтыі — дасягнулі вынікаў, дзейнічаючы менавіта гэткім чынам.

**— Аднак у нас тут іншая сітуацыя. Скажам, у краінах Балтыі гаворка ішла пра правы рускамоўнага насельніцтва. Гэта больш лакальны момант, па якім можна працаваць у канкрэтным рэчышчы. У Беларусі ж — праблемы практычна па ўсім спектры правоў і свабодаў чалавека. Не кажучы пра тое, што краіны Балтыі выразна азначылі свой накірунак у Еўропу і, у праватнасці, на супрацоўніцтва з АБСЕ. Беларускія ўлады не хаваюць свайго насцярожанага стаўлення да групы АБСЕ. Ці гатовыя вы да варыянту, калі рэкамендацыі вашай групы будуць сістэматычна ігнаравацца ўладамі?**

— На дадзены момант у мяне няма падстаў для такой песімістычнай ацэнкі сітуацыі, таму што ўлады пакуль нас не ігнаруюць. Наадварот, самыя шырокія колы ўладаў ахвотна ідуць на кантакты з намі.

**— Я кажу не пра кантакты. Не сумняваюся, што на ўзроўні кантактаў ніякага ігнаравання не будзе. Я кажу пра выніковасць вашай дзейнасці, пра сітуацыю, калі з вамі будуць кантактаваць з гасціннымі ўсмешкамі, але вашыя рэкамендацыі не будуць рэалізоўвацца на практыцы. Што вы будзеце рабіць у такой сітуацыі?**

— Заняць пэўную пазіцыю па гэтым пытанні я пакуль не магу. Калі мы прапануем свае канкрэтныя рэкамендацыі, мы паглядзім на рэакцыю адпаведных уладных органаў. Нашы рэкамендацыі не абавязковыя для ўрада, урад сам вольны вырашаць, прымаць іх ці не — і, канешне, разлічваць на тыя ці іншыя наступствы ў залежнасці ад прынятага рашэння. Натуральна, усе палітычныя і эканамічныя кантакты на міжнародным узроўні залежаць ад агульнага становішча ў краіне. Прычым я кажу пра кантакты не толькі з заходнееўрапейскімі і амерыканскімі інстытутамі, але і з расійскімі таксама. Таму я думаю, што рэкамендацыі ўсё ж будуць улічвацца: факт запрашэння нашай групы сведчыць пра тое, што беларускія правячыя колы хацелі б выйсці з міжнароднай ізаляцыі, у якой Беларусь знаходзіцца сёння. Поспех у дзейнасці нашай групы магчымы толькі ў тым выпадку, калі краіна, якая нас прымае, сама чакае гэтага поспеху і гатовая супрацоўнічаць.

**— Ці адсочвала група АБСЕ гучныя крымінальныя справы апошняга часу? Скажам, Андрэй Клімаў — ужо другі дэпутат, арыштаваны насуперак дэпутацкай недатыкальнасці. Справа Шыдлоўскага і Лабковіча — як вы расцэньваеце тую сітуацыю, што малады чалавек атрымаў паўтара года турмы за надпісы на сценах?**

— Зразумела, мы паведамілі пра гэтыя выпадкі ў Пастаянны камітэт АБСЕ ў Вене, адкуль інфармацыя пайшла ва ўсе канцы свету. Рэакцыя розных міжнародных арганізацыяў агульнавядомая (у тым ліку і рэакцыя Венскага бюро АБСЕ). Увогуле адзін з нашых абавязкаў — інфармаваць Вену пра важныя падзеі, і не толькі ў палітычнай сферы, але і ў эканоміцы, культуры, заканадаўстве. Сваю ўласную пазіцыю група АБСЕ не фармулюе — гэта не ўваходзіць у яе задачы. Інфармацыя з Вены рэтранслюецца вельмі многім міжнародным арганізацыям — ад Сусветнага банка да Савета Еўропы. Потым гэтыя арганізацыі будуць прадпрымаць канкрэтныя дзеянні — і на падставе нашых паведамленняў яны будуць больш прадуманымі і эфектыўнымі, будуць мець пад сабой аснову. Дарэчы, мы чэрпаем інфармацыю не толькі з асабістых кантактаў, але і са СМІ. Мы вельмі ўважліва сочым за СМІ: па-першае, за тым, што яны паведамляюць, а па-другое, наколькі свабодна яны могуць гэта рабіць.

*Гутарыў*
**Вадзім КАЗНАЧЭЎ**

*P.S. Тэлефон групы АБСЕ ў Мінску — (017) 272-34-97*






***27 лютага быў афіцыйна адкрыты офіс групы АБСЕ ў Мінску.***
*На здымку: (злева направа) кіраўнік групы АБСЕ Ханс-Георг Вік, міністр Іван Антановіч, дзеючы старшыня АБСЕ Браніслаў Герэмэк.*

# Расійскія дыпламаты «засвяціліся» ў Нарвегіі

**У мінулы чацвер Нарвегія аб'явіла персонамі нон грата пяць расійскіх дыпламатаў. Іх абвінавачваюць у шпіянажы і вярбоўцы грамадзянаў Нарвегіі як агентаў спецслужбы.**

У бліжэйшы час аташэ расійскай амбасады ў Нарвегіі Валерый Кашкароў і дарадца Яўгеній Серабракоў будуць высланыя з гэтай краіны. А былым супрацоўнікам расійскай амбасады Ігару Чаламу, Аляксандру Манахаву і Анатолю Жыгалаву назаўсёды забаронены ўезд у Нарвегію.

Міністр замежных справаў Нарвегіі Кнут Волебэк сцвярджае, што гэта першы такі сур'ёзны выпадак за апошні час. *«Мы ніколі не думалі, што цяперашняя Расія будзе весці шпіёнскую дзейнасць супраць дружалюбнай дзяржавы»*, — адзначыў ён.

Па словах міністра юстыцыі Аўд-Інге Эўрэ, расійскія дыпламаты спрабавалі схіліць нарвежцаў да працы на расійскія спецслужбы. Яна падкрэсліла, што дзейнасць расійскіх шпіёнаў была скіраваная супраць палітычных колаў Нарвегіі.

Як паведамляе нарвежская газета *Verdens Gang*, выкрыць расійскіх шпіёнаў удалося праз дарадцу міністэрства мясцовага кіравання Свена Ламарка. Ён прадаваў расіянам сакрэтную інфармацыю, што датычылася планаў *NATO* і гандлю Нарвегіі нафтай. На працягу апошніх чатырох гадоў Ламарк сустракаўся з расійскімі шпіёнамі ў розных гарадах Скандынавіі і перадаваў ім дакументы, падрыхтаваныя нарвежскай і шведскай контрвыведкай. Па інфармацыі *Verdens Gang*, Ламарк патрабаваў 100 тысячаў амерыканскіх долараў штогод за сваю працу, але расіяне вельмі неахвотна сплачвалі невялічкія сумы за яго паслугі.

Гэтая «шпіёнская гісторыя» — найбуйнейшая з 1985 года, калі за шпіянаж на карысць Савецкага Саюза быў арыштаваны і асуджаны міністр замежных справаў Нарвегіі Арне Трэхольт. (За часы «халоднай вайны» Нарвегія выслала за шпіянаж каля 50 савецкіх дыпламатаў.) У выніку цяперашняга скандалу адменены візіт прэм'ер-міністра Х'еля Магнэ Бонэрвіка ў Расію, які меўся быць на гэтым тыдні.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Словакию учат жить

***NATO* и ЕС предупредили Словакию, что «недемократичное» поведение премьер-министра Владимира Мечьяра может привести к тому, что страна не будет принята в ближайшем будущем в эти организации.**

Причиной послужили политические коллизии, возникшие после истечения срока правления президента Михала Ковача. Парламент дважды не смог избрать нового президента, и этот пост занял премьер Владимир Мечьяр.

Сразу после ухода Ковача словацкое правительство отменило запланированный на 19 апреля референдум по вступлению страны в *NATO* и проведению прямых президентских выборов в конце этого года. Мечьяр прекратил расследование по делу министра внутренних дел Густава Краича, усилиями которого годом ранее был сорван аналогичный референдум. Правительство также отстранило от работы 28 послов.

Генеральный секретарь *NATO* Хавьер Солана, посетивший Словакию с официальным визитом, сообщил словакам, что страна не попадет в *NATO* в этом тысячелетии. Аналогичное заявление сделали и побывавшие в Братиславе представители Евросоюза. Однако словаки не очень расстроены. Братиславу вполне устраивает статус независимой страны на стыке ЕС и СНГ. Через страну проходят транзитные трубопроводы, поставляющие в Западную Европу российский природный газ, и словацкая экономика во многом зависит от поставок российского сырья.

**Ирина БОСИНЗОН**

# Непотопляемый Сухарто

**Финансовый кризис не привел к изменению политического курса Индонезии. На заседании Народного консультативного конгресса Индонезии 76-летний генерал Сухарто избран президентом и главой правительства еще на пять лет.**

Вскоре после подавления мятежа левых офицеров в 1965 году Сухарто стал главой кабинета министров, а в 1967-м — президентом. Жестко ограничив гражданские свободы, он создал благоприятные условия для предпринимательства, но под строгим государственным контролем. За последние 30 лет национальный доход страны вырос до 1.050 долларов на душу населения. Продолжительность жизни индонезийцев, а их уже 200 миллионов, выросла в среднем на 20 лет.

Зарубежный капитал в Индонезию допускается только в смешанной форме, при участии национальных компаний. Важнейшие отрасли экономики — нефте- и горнодобывающая промышленность, энергетика — не подверглись приватизации и остались в ведении государства.

Индонезийский опыт весьма привлекателен для руководителей азиатских республик СНГ. Они пытаются скопировать его. Узбекский лидер Ислам Каримов один из своих первых официальных визитов совершил именно в Индонезию. Более того, инвестиции Индонезии еще недавно выглядели как многообещающий фактор экономического развития постсоветских азиатских стран.

Финансовый кризис поставил под сомнение все достижения страны. Курс рупии снизился в четыре раза, и падение продолжается. В марте МВФ отказал Индонезии в предоставлении очередных 3 млрд. долларов из общего пакета помощи в 43 млрд. долларов вследствие невыполнения руководством страны условий фонда. Кажется, у оппозиции могли быть все основания, чтобы требовать смещения президента. Только вот оппозиции в Индонезии нет.

**Владислав МАКСИМОВ**

# Праз сто гадоў на беразе Свіслачы

**«Вораг будзе разбіты, перамога будзе за намі!»**

Гэты сталінскі лозунг стаў асноўным рэфрэнам святкавання 100-гадовага юбілею I з'езда РСДРП, які сабраў у гэтыя выхадныя ў Мінску прыхільнікаў камуністычнай ідэі з розных краінаў.

Па запрашэнні прэзідэнцкай КПБ, якая выступала галоўным арганізатарам гэтага мерапрыемства, у Мінск прыехалі прадстаўнікі маргінальных камуністычных груповак з Расіі, Украіны, Грузіі, Азербайджана, Літвы, Польшчы, Грэцыі, Кіпра, а таксама кіруючых кампартыяў Кубы і Паўночнай Карэі.

У суботу камуністы правялі навукова-тэарэтычную юбілейную канферэнцыю, на якой ідэалы сацыялізму абаранялі прадстаўнік Беларусі ў СНД Сяргей Посахаў, акадэмік Яўген Бабосаў і іншыя камуністычныя апалагеты рангам ніжэй. Акрамя здравіцаў на адрас славянскага інтэгратара Лукашэнкі, камуністы даказвалі самім сабе, што менавіта іхняя партыя з'яўляецца спадкаемніцай расійскай сацыялдэмакратыі. Справа ў тым, што ў гэты ж самы дзень падобную канферэнцыю ў Маскве наладзілі «магільшчыкі КПСС» Аляксандр Якаўлеў і Гаўрыл Папоў, і ўдзельнікі мінскага паседжання абрынулі ўвесь свой гнеў на рэнегатаў, якія хочуць прыватызаваць гісторыю партыі.

У нядзелю зраніцы святкаванне, да якога далучыліся былы член палітбюро і гэкачэпіст Алег Шэнін і лідэр «Трудовой России» радыкал-камуніст Віктар Анпілаў, які прыехаў з Масквы, працягвалася каля доміка-музея I з'езда. Кіраўнік КПБ Віктар Чыкін, а таксама Шэнін з Анпілавым падпісалі ў доміку т.зв. мінскую дэкларацыю ў абарону справы першага з'езда. У гэтым дакуменце выказваецца шкадаванне, што з распадам Савецкага Саюза былі парушаны натуральныя гістарычныя працэс. Падпісанты заклікаюць усе левыя сілы ў краінах СНД выступіць з ініцыятывай далучэння сваіх краінаў да саюза Беларусі і Расіі і просяць падтрымаць інтэграцыйныя намаганні Лукашэнкі. Сотні дзве камуністаў цярпліва чакалі на двары сваіх лідэраў. Праводзіць мітынг перад домікам арганізатары не планавалі, але рэвалюцыйная натура Віктара Анпілава патрабавала дзеяння. *«Дайце мікрафон, я буду выступаць, хопіць хаваць камунізм»*, — патрабаваў лідэр «Трудовой России». Але мікрафона не знайшлося, і палымяны камуніст пераключыўся на раздачу аўтографаў сваім беларускім паплечнікам. Пры гэтым Анпілаў цвярдзіў, што прэзідэнт Лукашэнка з'яўляецца сапраўдным камуністам, бо дзякуючы ягонай палітыцы 70 працэнтаў народнай уласнасці ў Беларусі знаходзяцца ў руках дзяржавы.

Святкаванне скончылася ўрачыстым паседжаннем. У прэзідыуме засядалі спікер прэзідэнцкай палаты Анатоль Малафееў, былы першы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў і замежныя таварышы з брацкіх партыяў. Выступоўцы спявалі асанну Лукашэнку і шкадавалі, што Рыгоравіча няма ў зале. Састарэлы палкоўнік КДБ, сын Пятра Румянцава, таго самага гаспадара дому, дзе 100 гадоў таму адбыўся I з'езд РСДРП, заклікаў працягваць справу бацькоў. А лідэр КПБ Віктар Чыкін займаўся непрыхаваным плагіятам і прапанаваў прысутным і ў піку дэмакратам падпісаць Хартыю-98 у падтрымку Лукашэнкі і канстытуцыі 1996 года.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**




*Маскоўскі радыкал-камуніст Віктар Анпілаў у захапленні ад беларускага прэзідэнта.*

*Дарэчы*

## Чаму зніклі мінскія «кракадзілы»?

Цікавы гістарычны факт да 100-й гадавіны першага з'езда РСДРП прыгадаў журналіст штотыднёвіка «ЛіМ» Пётра Васілеўскі. Аказваецца, у тым самым 1898 годзе ў Свіслачы вылавілі апошняга «кракадзіла». Быў гэта, уласна кажучы, не кракадзіл, а вялікі (прыблізна паўтара метра даўжынёю) балотны яшчар. Ці ёсць нейкая сувязь паміж гэтымі падзеямі — невядома. Але ведаючы, што жывёлы здольныя прадчуваць катаклізмы — землятрусы, тайфуны, паводкі, можна ўявіць, што мінскія «кракадзілы» вымерлі, каб не пакутаваць пры сацыялізме.

# Даты і лёсы

## 17 сакавіка

У Сярэдневеччы лічылася, што менавіта ў гэты дзень Ной, ягоныя дзеці з жонкамі, а таксама дэлегаты ад жывёлаў і птушак узышлі на борт адмыслова пабудаванага каўчэга, які ўратаваў іх падчас Патопу.

**1832.** Уцёк з-пад варты ў Пскове «беларускі Робін Гуд», ураджэнец Ігуменскага павета Павел Астроўскі, паводле прыгодаў якога Пушкін напісаў аповесць «Дуброўскі». Далейшы лёс шляхецкага разбойніка, які некалькі гадоў наводзіў жах на царскую адміністрацыю і буйных землеўладальнікаў Віцебскай губерні, невядомы.

**1917.** У Мінску пачалося двоеўладдзе: адначасна былі створаны Часовы грамадскі камітэт парадку і Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У іншых гарадах утварыліся дэмакратычныя арганізацыі: Саюз беларускай дэмакратыі (Гомель), Беларускі народны саюз (Віцебск), Беларускі народны камітэт (Магілёў).

**1923.** Прадстаўнікі беларускіх сацыялістычных партыяў (у тым ліку тых, што ўваходзілі ў склад эміграцкага ўрада БНР) падпісалі ў Мінску пагадненне з урадам БССР пра падрыхтоўку ўзброенага паўстання ў Заходняй Беларусі.

**1938.** Мінск быў падзелены на 3 адміністратыўныя раёны: Варашылаўскі, Кагановіцкі і Сталінскі (цяпер Савецкі, Кастрычніцкі і Заводскі).

## 18 сакавіка

Дзень Парыжскай камуны

**1895.** У Германіі выйшаў на маршрут першы ў гісторыі гарадскі маршрутны аўтобус фірмы *Benz*. Ён быў разлічаны на 8 пасажыраў.

**1913.** Быў забіты апошні кароль Грэцыі Георгі I. У 1963 г. памёр апошні кароль Італіі Умберта II. У 1965 г. памёр апошні кароль Егіпта Фарух I.

**1918.** Рада Усебеларускага з'езда абвясціла сябе Радай БНР, узяўшы функцыі парламента Беларусі.

**1921.** Паводле Рыжскай мірнай дамовы, Заходняя Беларусь з насельніцтвам больш за 3 млн. чалавек была перададзеная Польшчы. Шэсць паветаў Мінскай губерні бальшавікі вырашылі пакінуць у якасці «суверэннай Беларускай савецкай рэспублікі».

**1931.** Амерыканская фірма *Schick* выпусціла першыя электрабрытвы.

**1931.** Калегія ОГПУ БССР без суда прыгаварыла кіраўнікоў «Саюза вызвалення Беларусі» З.Прышчэпава, А.Баліцкага, А.Адамовіча і П.Ільючонка да 10 гадоў зняволення. 10 красавіка турэмныя тэрміны атрымалі яшчэ 86 чалавек. Больш як 40 з іх заявілі, што пра існаванне СВБ даведаліся толькі ад следчых. Астатнія моўчкі прынялі чарговую фальсіфікацыю савецкіх спецслужбаў.

**1965.** Чалавек упершыню выйшаў у адкрыты космас. Аляксей Лявонаў, злучаны канатам з караблём «Восход-2», прабыў у космасе трохі больш за 12 хвілінаў і за гэты час праляцеў каля 5.000 км. Дасціпныя французы прыдумалі дзеяслоў *léonir* — «выходзіць у адкрыты космас».

## 19 сакавіка

**791 да н.э.** Вавіланяне назіралі першае дакументальна зафіксаванае сонечнае зацьменне.

**1962.** Памёр ад алкагалізму малодшы сын Сталіна Васіль Джугашвілі, былы камандуючы авіяцыяй Маскоўскай акругі. Неўзабаве пасля смерці ўсемагутнага бацькі яго арыштавалі і прыгаварылі да 10 гадоў зняволення за злоўжыванне службовым становішчам, потым адправілі ў ссылку ў Казань з захаваннем генерал-лейтэнанцкай пенсіі.

**1991.** Прэзідэнт СССР Гарбачоў выдаў указ «Аб рэформе розничных цэнаў і сацыяльнай абароне насельніцтва». Неўзабаве рэзкі рост цэн справакаваў масавыя страйкі рабочых у Беларусі.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# Грошы не знайшлі – скралі іконы

**16 іконаў скрадзена ў райцэнтры Хоцімск Магілёўскай вобласці.**

Іконы знаходзіліся ў доме айца Кірыла — настаяцеля мясцовага сабора Св.Троіцы. На некалькі дзён бацюшка па справах пакідаў дом. У гэты час злодзеі і скралі ўсё. Сярод вынесенага ёсць каштоўныя творы: ікона Божай Маці Казанскай у пазалачоным акладзе 18 ст., Ян Хрысціцель з залачоным німбам і ікона з вывай Ісуса Хрыста у пасрэбранай рызе — усе 19 ст.

Як мяркуе следства, злодзеі першапачаткова планавалі забраць зусім іншае. Крыху раней хоцімскаму сабору мінская фірма «Вікас» і прадстаўніцтва кампаніі «Філіпс» ахвяравалі больш за 300 мільёнаў рублёў. Злачынцы, відаць, шукалі грошы, бо ўвесь дом быў перарыты, рэчы раскіданыя. А калі грошы не знайшлі, то знеслі іконы.

**Іван ЗАСАДА**

# Мы хотим болеть за Беларусь

**Бронзовые призеры XVIII зимних Олимпийских игр биатлонист Алексей Айдаров и лыжный акробат Дмитрий Дащинский получат по 15 тысяч долларов, причем налоги с премиальных взиматься не будут.**

Специальное решение по этому вопросу было принято Совмином 28 января, т.е. за десять дней до начала Игр в Нагано. Но известным это стало только в минувший четверг на пресс-конференции, организованной Национальным олимпийским комитетом Беларуси и его спонсором — компанией *Coca-Cola*. Глава белорусского представительства этой фирмы Джулио Батиста подарил нашим медалистам еще и по музыкальному центру, а председатель Олимпийского фонда НОКа вручил им и их тренерам именные часы.

Там же вице-президент НОКа Николай Ананьев, подводя итоги выступления национальной команды Беларуси на Олимпиаде в Нагано, оценил его в целом как успешное. Однако, заметил Ананьев, если лыжные акробаты, биатлонисты, хоккеисты продемонстрировали высокое мастерство, то от лыжников и конькобежцев ожидали большего. Чтобы и в американском Солт-Лейк-Сити на следующих зимних Играх 2002 года претендовать на высокие места, необходимо готовить высококвалифицированные тренерские кадры и развивать материальную базу. Первыми шагами в этом направлении станут строительство крытого катка, который должен быть готов, видимо, к 2000 году, и приглашение российских специалистов по лыжному и конькобежному спорту.

Ананьеву был задан вопрос, насколько реально создание объединенной белорусско-российской олимпийской команды, о чем говорил в одном из интервью президент Александр Лукашенко. Николай Константинович ответил, что это невозможно, так как Беларусь — суверенное государство, что слова президента были, скорее всего, неправильно истолкованы.

Тут уж зашумели журналисты: трудно по-иному толковать однозначное заявление. Но сколько мы уже слышали подобных заявлений, сделанных сгоряча либо из желания получить сиюминутные политические дивиденды.

А сторонникам олимпийской интеграции надо бы знать, что в случае осуществления этой идеи Беларусь практически лишится представительства на Олимпийских играх. Ни в одном из зимних видов спорта, кроме лыжной акробатики, наши спортсмены не смогут эффективно конкурировать с российскими. Не будет тогда у нас такой замечательной хоккейной сборной, за которую взахлеб болела вся страна. А будет в объединенной команде 3-4 белоруса и 120 россиян. Кому это выгодно? Тем, кто хотел бы сделать ныне суверенную Беларусь Северо-Западным краем восточного соседа?

Нет, пусть уж наши занимают 30-40-е места, но это действительно НАШИ — минчане, витебляне, могилевчане...Мы хотим болеть за своих!.

**Семен ПЛОЦ**





© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1164 Нумар падпісаны ў друк 16.03.98 (15:00) Наклад — 15.220